«НАШАЕ ЖЫЦЬЦЁ» — грамадзкая газэта

# НАША ЖИЗНЬ

«НАША ЖИЗНЬ» — общественная газета

№5(29) май 2012

## МЕМАРЫЯЛ СТАЛІНСКІХ АХВЯРАЎ ПРЫБІРАЛІ

**Сябры Партыі БНФ, Руху "За Свабоду" і АГП добраўпарадкавалі самаробны мэмарыял каля вёскі Паляі, дзе ў 1930–50-я гады адбываліся масавыя расстрэлы мірных грамадзянаў.**

Гэта была ўжо традыцыйная акцыя па добраўпарадкаваньні мэмарыялу, якая штогод праводзіцца 29 траўня.

Актывісты прыбралі траву і сьмецьце каля крыжоў, якія ўсталяваны ў памяць пра бязьвінна расстраляных мясцовых жыхароў.

Самаробны мэмарыял — некалькі крыжоў, пастаўленых у розныя гады віцебскімі дэмакратычнымі актывістамі — добра відаць з аўтатрасы Р21, што вядзе зь Віцебску на Смаленск. Першы крыж на месцах пахаваньня ахвяраў сталінскіх рэпрэсіяў быў ўсталяваныя каля вёскі Паляі яшчэ 20 год таму актывістамі Беларускага Народнага Фронту пад началам **Сяргея Цярэньцева**. Некалькі разоў іх нішчылі невядомыя вандалы і пагражалі зьнесьці мясцовыя ўлады.

Гэтак, два гады таму кіраўніцтва Воранаўскага сельсавету загадала зьнесьці мэмарыял, а старшыню абласной арганізацыі Партыі БНФ **Кастуся Смолікава**, які ўсталяваў апошнія некалькі крыжоў, аштрафавалі




за «самаўпраўства». Аднак мэмарыяльныя крыжы ніхто зьнішчаць ня стаў: актывісты — з прынцыповых меркаваньняў, а ў сельсавету, відаць, проста «не паднялася рука».

## ВЫКЛІКАЛІ Ў ІНСПЭКЦЫЮ

**Віцебскую актывістку Алену Семенчукову выклікалі ў інспэкцыю па справах непаўнагадовых.**

Віцебская міліцыя працягвае шукаць таго, хто 4 траўня ўзьняў бел-чырвона-белы сьцяг над будынкам інтэрнату мэдычнага ўнівэрсытэту. Дзеля гэтага 11 траўня ў інспэкцыю па справах непаўнагадовых Кастрычніцкага раёну Віцебску была выкліканая актывістка "Эўрапейскай Беларусі" Алена Семенчукова. Капітан міліцыі **Валер Вашкель** падчас гутаркі зь дзяўчынай дапытваўся, што яна і яе непаўнагадовы брат Сяргей рабілі ля таго месца, дзе было вывешанае, паводле яго выразу, "бела-чырвонае палотнішча".

Капітан Вашкель патэлефанаваў Алене Семенчуковай напярэдадні і сказаў, што яна тэрмінова павінна прыйсьці ў міліцыю "на гутарку". Аднак актывістка адмовілася зрабіць гэта, заявіўшы, што нікуды ня пойдзе без павесткі. Праз некалькі гадзін Валер Вашкель асабіста даставіў павестку і ўручыў яе маці Алены.

Паводле словаў міліцыянтаў было нібыта зьдзейсьненае праваапарушэньне. Маўляў, былі пашкоджаныя нейкія трубы, пра што маецца адпаведны акт, і цяпер трэба знайсьці таго, хто прычыніў матэрыяльную шкоду мэдунівэрсытэту.

Раней "на гутарку" ў інспэкцыю выклікалі маці Алены і яе брата, які цяпер знаходзіцца на Гомельшчыне. Варта адзначыць, што чамусьці міліцыянты надаюць гэтай справе асаблівае значэньне, мяркуючы па тым, асобы якога рангу ёй займаюцца. Так, каб дамагчыся яўкі маці Алены Семенчуковай у інспэкцыю, ёй



асабіста тэлефанаваў сам падпалкоўнік **Андрэй Іваноў**, намесьнік начальніка ўпраўленьня аховы правапарадку і прафіляктыкі міліцыі грамадзкай бясьпекі УУС Віцебскага аблвыканкаму.

І "гутарыў" з жанчынай не звычайны інспэктар, а сам начальнік інспэкцыі - капітан **Вячаслаў Пяткун**. У 2007 годзе Пяткун быў прызнаны найлепшым участковым інспэктарам міліцыі краіны, з таго часу ўзьняўся па службовай лесьвіцы. Сярод міліцыянтаў-"выдатнікаў" і Валер Вашкель, які дапытваў Алену Семенчукову: у 2009 годзе ён стаў прызэрам рэспубліканскага агляду-конкурсу інспэктараў ІСН.

"Віцебская Вясна"

# ЦІСНУЦЬ НА БАЦЬКОЎ АКТЫВІСТАЎ

**Маці віцебскай актывісткі "Маладога фронту" папрасілі паўплываць на дачку.**

**Юлія Вінаходава** - актывістка "Маладога Фронту" і студэнтка Віцебскага дзяржаўнага тэхналягічнага каледжу. Апошні курс, 26 чэрвеня - дзяржэкзамэн.



Раней зь дзяўчынай гутарылі куратар і намесьнік дырэктара па выхаваўчай працы каледжу. 17 траўня затэлефанавалі ейнай маці. Сказалі прыйсьці ў каледж на размову. Дзяўчына затэлефанавала куратару, каб высьветліць, у чым справа. Тая адказала, што Юля "даскакалася", бо яе прасілі нічога не рабіць, а яна не паслухалася, сказалі пра ўдзел у пікеце каля СІЗА.

У мамы дзяўчыны некалькі гадоў таму быў інсульт. Ёй нельга хваляваца, ледзь што - адразу ўзьнімаецца ціск. Пасьля званка з каледжу жанчына перанэрвавалася, прыйшлося выклікаць хуткую. У каледжы з маці актывісткі гутарылі вельмі ветліва, казалі агульнымі фразамі, прасілі паўплываць на дачку.

Намесьніца дырэктара па выхаваўчай працы сказала, што ейная дачка робіць усё выключна за эўрапейскія гранты. Маці актывісткі адказала, што грантаў гэтых чамусьці ня бачыць, дзіця кожнаму рублю радае. Мама запыталася ў куратара, ці змагла б тая "гэтаксама, як Юля". Куратар сказала, што не. На што жанчына адказала, што менавіта таму і лічыць сваю дачку сапраўднай беларускай. Казалі пра пікет у падтрымку Каваленкі каля СІЗА, паказалі здымкі. Мама сказала, што, мабыць, гэта і ня Юля, твару на фота ня бачна.

Да гэтага да актывісткі прыходзілі з КДБ. Пагражалі тым, што яшчэ адзін "выбрык" - і яе адлічаць. Маўляў, гэта апошняе папярэджаньне. На думку актывісткі, адзіны спосаб пазьбегнуць ціску з боку спэцслужбаў - раскрыць сам факт сустрэчаў і спробаў пераканаць дзяўчыну ня ўдзельнічаць у акцыях у падтрымку Сяргея Каваленкі.

# ЛІСТАВАННЕ З АДМІНІСТРАЦЫЯЙ ПРЭЗІДЭНТА

**Адміністрацыя прэзыдэнта дасылае Яну Дзяржаўцаву ліст за лістом.**

Вельмі зьдзівіўся віцебскі сябра КХП-БНФ **Ян Дзяржаўцаў**, знайшоўшы ў сваёй паштовай скрыні капэрту з адваротным адрасам адміністрацыі прэзыдэнта Рэспублікі Беларусь. Палітык не паверыў сваім вачам, калі расьпячатаў капэрту і прачытаў у першых радкох ліста, які быў унутры, што гэты ліст зьяўляецца адказам на ягоную скаргу. Бо літаральна некалькімі днямі раней актывіст ужо атрымліваў ліст з адміністрацыі прэзыдэнта ў адказ на тую самую скаргу. Зьмест абодвух лістоў значна адрозьніваецца адзін ад другога, таму спадар Дзяржаўцаў цяпер у разгубленасьці: якой вэрсіі адказу даць веры.

Віцебскі апазыцыянэр пісаў у адміністрацыю прэзыдэнта скаргу на дзеяньні аднаго з чыноўнікоў мясцовай раённай адміністрацыі. Той, на думку Яна Дзяржаўцава, парушыў патрабаваньні закону аб зваротах грамадзян, бо на заяву аб правядзеньні пікету, афармленую на беларускай мове, адказаў па-расейску. У адміністрацыю прэзыдэнта Ян Дзяржаўцаў зьвярнуўся пасьля таго, як ня змог дамагчыся пакараньня нядбайнага чыноўніка, паведаміўшы пра выпадак у раённую пракуратуру і Віцебскі аблвыканкам.

Як пад першым, так і пад другім лістом з адміністрацыі кіраўніка дзяржавы стаіць подпіс начальніка галоўнага ўпраўленьня па рабоце са зваротамі грамадзян і юрыдычных асоб **Станіслава Буко**. Гэта, бадай, адзінае падабенства між двума пасланьнямі. Усё астатняе адрозьніваецца вельмі моцна.

Ліст, які прыйшоў першым, быў досыць кароткім - усяго некалькі радкоў. У ім Яну Дзяржаўцаву паведамлялася, што ягоная скарга перанакіраваная ў Нацыянальны цэнтар заканадаўства і прававых дасьледаваньняў, і што менавіта гэты цэнтар падрыхтуе адказ па сутнасьці пастаўленых пытаньняў.

На напісаньне новага ліста віцебскаму актывісту спадар Станіслаў Буко выдаткаваў, відаць, нашмат больш часу. Адказ атрымаўся ажно на дзьве старонкі. Цяпер дзяржаўны муж ня стаў згадваць ні пра які цэнтар, якому даручана падрыхтаваць грунтоўны адказ. Такі адказ ён вырашыў даць сам. Зь ягонага адказу вынікае, што чыноўнік, які не захацеў пісаць па-беларуску, разглядаючы заяву Яна Дзяржаўцава пра пікет, нічога не парушыў, бо кіраваўся не законам аб зваротах грамадзян, а законам аб масавых мерапрыемствах.

Яшчэ адно адрозьненьне паміж дзьвюма вэрсіямі адказу за подпісамі Станіслава Буко, якое адразу кідаецца ў вочы: лісты напісаныя на розных мовах. Першы ягоны ліст быў складзены па-расейску, і гэта было ўспрынята адрасатам як відавочны зьдзек і зь беларускай мовы, і з законаў. Новая ж рэдакцыя ліста службовай асобы прэзыдэнцкай адміністрацыі выглядае як зробленая работа над памылкамі - аўтар адказу выправіўся і напісаў гэтым разам па-беларуску, што адпавядае норме закону аб зваротах грамадзян, згодна зь якой адказы даюцца на мове звароту.

**«НАША ЖИЗНЬ»** - общественная газета. Издатель - коллектив редакции. Выходит нерегулярно. Тираж **299** экземпляров. Редактор - **Христафор Желяпов**. Вёрстка - **Сергей Солидный**. Напечатана на частном оборудовании на свои средства и с помощью единомышленников.
**http://kamunikat.org/naszaje_zyccio.html**

# "СЦЯГ І ГЕРБ ПАГОНЯ – СІМВАЛЫ НАЦЫІ"

– Я згодна з **Алегам Трусавым** (http://bsdp.org/?q=be/node/11374 ) у тым, што "…цяперашнія ўлады гэтага і не хацелі, але яны зрабілі так, што бел-чырвона-белы сцяг ведае цяпер кожны грамадзянін Беларусі", – гаворыць **Валянціна Болбат**, старшыня Віцебскай абласной арганізацыі БСДП.

– У гэтыя дні мы ўзважваем прычыны таго, як так сталася, што нацыянальныя сімвалы беларускага народу – Герб Пагоня і бел-чырвона-белы сцяг, ў выніку сумна вядомага рэферэндуму 1995 года, запатрабоўваюць столькі высылкаў для абароны. Усцешвае тое, што герб Пагоня, у выніку намаганняў беларускай грамадскасці, ўнесены ў скарбонку нацыянальных сімвалаў нашай краіны, засмучае – у якой загане адна са старэйшых і багацейшых моваў сусвету.

– Дарэчы, Пагоня – і герб нашага Верхнядзвінску. І я ўзгадваю, якое даволі шырокае абмеркаванне разгарнулася ў нашым раёне, калі паўстала пытанне аб гербе. Мясцовыя актывісты спрычыніліся да гэтай працы, зрабіўшы потым вялікую прэзентацыю, пасля атрымання дакументаў з геральдычнай камісіі, з удзелам улады. На сёння эскіз гербу, які разглядаўся геральдычнай камісіяй, захоўваецца ў Верхнядзвінскай раённай арганізацыі БСДП.

– І ў гэтыя дні сацыял-дэмакраты Віцебшчыны палічылі неабходным для сябе нагадаць пра падзеі 1995 года стужкамі бел-чырвона-белага колеру на аўтамабілях, галінках дрэў ў Верхнядзвінску, Полацку, Наваполацку.

# КАМПАНІЯ "НЕБЯСПЕЧНЫ БАРШЧАВІК"

**Полацкія сацыял-дэмакраты распачалі інфармацыйную кампанію "Небяспечны баршчавік".**

Расказвае кіраўнік Полацкай гарадской партарганізацыі **Яўген Вільскі:**

– Гэта інфармацыйная кампанія распачата ў рамках экалагічнага праекту грамадскага аб'яднання "Палата", заснавальнікамі якога сталі некалькі сябраў партыі, а таксама нашы прыхільнікі з Полацку і Наваполацку. Існуе яно ўжо некалькі год і мы правялі не адну кампанію, якія тычацца экалагічных праблем рэгіёну. Адна з іх – гэта збор подпісаў супраць будаўніцтва газазаправачнай станцыі каля Наваполацка літаральна на ўзбярэжжы Дзвіны. Канешне, нашых высілкаў не хапіла на тое, каб будаўніцтва станцыі было прыпынена, але да экалагічных акцыяў далучыліся людзі, якіх хвалявалі пытанні экалогіі, бо Полаччына – гэта рэгіен, які мае буйныя прамысловыя прадпрыемствы, што небяспечна ўплываюць на экалагічны стан тэрыторыі.

І мы прыйшлі да высновы, што толькі ў рамках грамадскай ініцыятывы, ці грамадскага аб'яднання мы знойдзем, для вырашэння экалагічных праблем, нямала прыхільнікаў. Вось тады і прыйшла ідэя стварэння грамадскага экалагічнага аб'яднання "Палата", якое сёння ўжо зарэгістравана як сябра Асамблеі недзяржаўных арганізацый Беларусі. Мы знайшлі прыхільнікаў нашай справы і сярод структур грамадзянскай супольнасці Віцебшчыны, з якімі зараз праводзім інфармацыйную кампанію "Небяспечны баршчавік". Станоўчы і той факт, што ёсць разуменне і падтрымка з боку Наваполацкай гаррайінспекцыі прыродных рэсурсаў і аховы акаляючага асяроддзя. Выдадзена і распаўсюджана каля тысячы інфармацыйных улётак аб тым, як змагацца з гэтай небяспечнай раслінай.

# ЧАЦЬВЁРТА ЎЛАДА ДЗЕЙНІЧАЕ

**Пасля публікацыі фотаздымка на "Вестках" у Шаркоўшчыне адрамантавалі ходнік.**

Камунальныя службы паклалі драўляны масток над вялізнай дзіркай у ходніку на вуліцы Чырвонадворскай у Шаркоўшчыне. Гэта адбылося хутка пасля таго, як пра ходнік напісалі "Весткі".

Ходнік на вуліцы Чырвонадворскай складзены з вялікіх бетонных плітаў. У адным месцы пад ходнікам знаходзіўся люк – і каб яго не закрыць, пліты паклалі амаль за метр адна ад адной. Вялізную



дзірку хто перакрочваў, хто абыходзіў, а хто не заўважыў, мог скалечыцца. Так было шмат год.

29 траўня "Весткі" апублікавалі фотаздымак – маладыя бацькі з дзіцём у вазку перабіраюцца праз дзірку ў ходніку.

На наступным тыдні, 9 чэрвеня, аўтар гэтага матэрыяла кіраваўся ў Германавічы і пабачыў, што дзірка ў ходніку закладзеная драўляным мастком.

У райвыканкамах і дзяржструктурах нашага рэгіёна наш сайт чытаюць рэгулярна і ўважліва. Кажуць, што ў Глыбокім аддзел ідэалогіі штодня робіць для старшыні райвыканкама раздрукоўкі нашых публікацый. Шмат было выпадкаў, калі начальства тым ці іншым чынам рэагавала на публікацыі "Вестак".

Мінулай восенню публікацыя нашага сайту стала штуршком для дабрачыннай акцыі. Грамадская дзяячка **Ада Райчонак** напісала пра Станіслава Ананіча з Германавічаў, які адзін гадуе траіх дзяцей, мае невялікі заробак і слабое здароўе. Яна прасіла чытачоў, каб дапамаглі чалавеку хто чым можа. Артыкул перадрукавала газета "Народная воля", якая выходзіць накладам 30.000 асобнікаў – і ў хуткім часе Станіслаў атрымаў некалькі пасылак з рэчамі і грашовых пераводаў.

Пісаць навіны для "Вестак" мае права кожны карыстальнік, які зарэгіструецца на сайце.

**Кастусь Шыталь, westki.info**

# ЯК ЧЫНОЎНІК ГАДАВЫ БЮДЖЭТ ГОРАДА СКРАЎ

**Кандыдат гістарычных навук Максім Макараў, аўтар кнігі "Віцебск — ад Пасада да Магдэбургіі", расказаў пра малавядомыя і па-свойму сенсацыйныя факты з гісторыі Віцебска і Полацка.**




Максім Макараў нарадзіўся і скончыў сярэднюю школу ў Віцебску. Потым атрымаў дыплом у Беларускім дзяржаўным універсітэце. Затым вучыўся ў польскім універсітэце імя Мікалая Каперніка (у горадзе Торунь). Цікава, што там выкладаў наш зямляк — прафесар **Станіслаў Александровіч.** У гэтай жа польскай ВНУ Максім скончыў дактарантуру, абараніў дысертацыю. Зараз выкладае ў сталічных універсітэтах, у тым ліку і ў БДУ.

Як расказаў гісторык, пры фінансавай падтрымцы Міністэрства адукацыі Беларусі было праведзена грунтоўнае даследаванне гісторыі гарадоў беларускага Падзвіння. Першым быў разгледжаны перыяд гісторыі "да Магдэбурга" — падчас дзеяння віцебскага гарадскога права.

— Апошняе — унікальная рэч у маштабах усёй Усходняй Еўропы. Бадай, толькі ў польскім Плоцку было нешта аналагічнае. Асаблівасць яго ў тым, што мяшчане Прыдзвінскага рэгіёна не неслі ніякіх павіннасцяў, а толькі рыцарскую службу. Потым віцебскае права ідзе ў тыраж: пачынае прымяняцца ў такіх населеных пунктах, як Сураж, Ула, Вяліж (цяпер расійскі гарадок), — расказвае Максім Макараў. — Унікальнасць віцебскага права ў тым, што мяшчанства атрымала такія ж правы, як шляхта. Апошняе, натуральна, прывяло да супярэчнасцяў з цэнтральным заканадаўствам княства... Калі віцебская зямля ўвайшла ў склад Вялікага Княства Літоўскага, яна пакінула за сабой статус аўтаноміі, атрымала спецыяльны віцебскі земскі прывілей. А магдэбургскае права Віцебск атрымаў толькі ў 1597 годзе. Для параўнання, Брэст — яшчэ напрыканцы XIV стагоддзя, Полацк, Мінск —напрыканцы XV стагоддзя.

Гісторык расказаў, што знайшоў цікавы дакумент ад 1550 года: скаргу віцебскіх мяшчан на віцебскага ксяндза. Скардзіліся, што касцёл атрымаў манаполію на выраб... алкагольных напояў. Пры гэтым віцебскія мяшчане "гналі" гарэлку ў сваіх дамах.

Што ж датычыцца Полацка, то, як высветліў вучоны, полацкі магістрат быў вельмі карумпаваным: на працу бралі толькі блізкіх сваякоў чыноўнікаў.

— А па сутнасці гэта была агульнаеўрапейская тэндэнцыя, характэрная для тых жа паўночных нямецкіх гарадоў. У параўнанні з імі Полацк, шчыра кажучы, выглядае больш дэмакратычным — проста ўзор дэмакратыі, бо бурмістраў усё ж выбіралі, а прызначалі толькі чыноўнікаў ніжэйшага звяна. Пры ўсім тым бурмістры не заўсёды былі, мякка кажучы, "чыстыя на руку". Адзін з іх падчас чарговай вайны скраў з казны суму, прыблізна роўную гадавому бюджэту, калі Полацк ужо знаходзіўся пад уладай маскоўскага цара. Адбылося гэта прыкладна наступным чынам. Мяшчане сабралі грошы, каб іх даставілі цару ў лагер пад Ляхавічамі. Але маскоўскіх ваявод на той час адтуль ужо "выбілі". А што рабіць з грашыма? Толькі праз гадоў дваццаць у судзе было даказана, што грошы трапілі ў кішэню чыноўніка.

Іншая гісторыя звязана з махінацыямі з падаткамі. Адзін палачанін быў ледзьве не забіты ў магістраце, калі на свае вочы ўбачыў, што шмат грошай (падаткаў), сабраных ад гараджан, адказныя асобы забралі сабе. Добра, што паспеў дабегчы да гараджан, якія яго дэлегавалі праверыць, ці дастаткова падаткаў заплацілі. Талакой сведку крадзяжу выратавалі ад смерці.

Не можа таксама не здзіўляць, наколькі мінімальнымі былі тэрміны турэмнага зняволення падчас дзеяння магдэбургскага права. Звычайны тэрмін ізаляцыі ад грамадства — тры гадзіны, дзень, два. У параўнальна цяжкіх выпадках "саджалі" ўсяго на шэсць тыдняў. Аднаго пісара менавіта на столькі пасадзілі за тое, што параіў гараджаніну не хадзіць у магістрат для афармлення неабходнай яму паперы ў натарыяльнай кнізе, а запрасіў да сябе. Маўляў, зэканоміш. Потым пры правядзенні рэвізіі дакументаў падман выкрыўся.

Аднак ва ўсе часы вельмі жорстка каралі за забойства. У Віцебску напрыканцы XVI стагоддзя ў кнігах земскага суда адлюстравана, што мешчанін выпадкова падстрэліў аднаго з прадстаўнікоў шляхты. За такое пагражала смяротнае пакаранне і публічная ганьба. У прыватнасці, на дзвярах ратушы прымацоўвалі аркуш, дзе было апісана злачынства. А вінаваты быў абавязаны стаяць побач і расказваць, які ён злачынца, а потым мусіў каяцца ля царквы ці касцёла.

Да дзвярэй ратушы прымацоўвалі і важныя рашэнні магістратаў, якія перапісваліся на спецыяльныя "карты" — іх гараджане абавязаны былі чытаць і запамінаць. І няведанне "новаўвядзенняў", безумоўна, не пазбаўляла ад адказнасці. Цікава, што падчас сяўбы, жніва магістрат спыняў сваю дзейнасць, бо супрацоўнікі мелі зямельныя надзелы. Не працавалі і падчас рэлігійных святаў.

На жаль, сумна канстатаваў гісторык, багаты віцебскі архіў — а гэта каля 1,8 тысячы кніг часоў Вялікага Княства Літоўскага і Рэчы Паспалітай — быў у 1905 годзе перавезены ў Вільню. Потым у значнай ступені згублены. Сёння рэшткі таго архіўнага багацця захоўваюцца пераважна ў Вільні і Варшаве. А колькі цікавага можна было бы яшчэ прачытаць і давесці да ведама сучаснікаў...